# Голас Радзімы

№ 19 (2005)
7 мая 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





**Мір — зямлі, дружба паміж усімі народамі — такія словы напаўняюцца асаблівым сэнсам у час першамайскага свята — Дня міжнароднай салідарнасці працоўных. У гэтыя веснавыя дні людзі розных краін асабліва адчуваюць сваю еднасць і агульную адказнасць перад будучыняй. «Дружба — пшыязнь» — гэтыя словы часта гучаць на вуліцах Варшавы, калі ў братнюю Польшчу прыязджаюць суседзі-беларусы. На гэты раз яны гучалі ў Палацы савецкай культуры і навукі і ў многіх іншых месцах польскай сталіцы, дзе праходзілі прысвечаныя 70-годдзю Вялікага Кастрычніка Дні дружбы Бяла-Падляскага ваяводства і Брэсцкай вобласці. Надоўга запомняцца гасцям з Беларусі і гаспадарам сустрэча моладзі дзвюх краін пад дэвізам «Твой уклад у справу міру», сардэчныя гутаркі рабочых і вяскоўцаў, грамадскіх дзеячаў, пісьменнікаў, урачоў. Вялікую цікавасць варшавян выклікалі выстаўкі жывапісу, прыкладнога мастацтва, фатаграфіі.**

**Удзельнікі Дзён дружбы наведалі ў Варшаве могілкі-маўзалей савецкіх воінаў і аддалі даніну ўдзячнай памяці загінуўшым у баях з фашысцкімі захопнікамі за вызваленне польскай зямлі. Яны азнаёміліся са славутымі мясцінамі сталіцы брацкай краіны.**

**НА ЗДЫМКАХ: на могілках-маўзалеі савецкіх воінаў у Варшаве работнік Брэсцкага панчошнага камбіната Аляксандр КУЗЬМІЧ, сялянка з вёскі Вычулкі Бяла-Падляскага ваяводства Мар'я ЛУКОЎСКАЯ і савецкая школьніца Каця ШЫРОКАВА; у адной з выставачных залаў Палаца савецкай культуры і навукі брэсцкі мастак Сяргей КАЗАК выканаў серыю экспрэс-партрэтаў варшавян; цёпла прымалі польскія сябры артыстаў-аматараў народнага харэаграфічнага ансамбля «Радасць» з Брэста; дэлегацыя з Брэстчыны ў парку Лазенкі ля помніка кампазітару Ф. Шапэну.**

**Фота Э. КАБЯКА.**







## ДЗЕНЬ ЯДНАННЯ СУСВЕТНАГА ПРАЛЕТАРЫЯТУ

Сямідзесяты Першамай адзначыла Краіна Саветаў. Як заўсёды ўрачысты і маляўнічы, сёлета ён быў напоўнены асаблівым, прыўзнятым настроем і дынамізмам. Атмасфера рэвалюцыйнага абнаўлення, у якой праходзіла святкаванне Першамая, пацвердзіла ўсебаковае развіццё дэмакратызму нашага ладу, салідарнасць савецкіх людзей у барацьбе супраць эксплуатацыі і прыгнёту, за мір і сацыяльнае развіццё.

Працоўныя поспехі пацвярджаюць рытм перабудовы, паскарэнне нашага развіцця, набываюць бачныя вынікі. Узраслі тэмпы росту вытворчасці працы, станоўчыя перамены адчуваюцца ў рабоце цэлых галін народнай гаспадаркі. Летась больш, чым калі-небудзь, пабудавана жылых дамоў, дзіцячых садоў, бальніц. Не менш важна, што рушацца састарэлыя стэрэатыпы, механізм тармажэння, людзі вучацца думаць і дзейнічаць па-новаму. Але мы ведаем: зроблены толькі першыя крокі, галоўная работа наперадзе.

Публічнасць, дэмакратызацыя, самакіраванне прыводзяць у дзеянне велізарны творчы патэнцыял працоўных, робяць уплыў і на рост міжнароднага аўтарытэту Краіны Саветаў. Нашы буйныя мірныя ініцыятывы атрымалі прызнанне і падтрымку на планеце.

Адзінства курсу на паскарэнне, міралюбівую знешнюю палітыку нашай дзяржавы прадэманстравалі Першамайскія ўрачыстасці, якія прайшлі ва ўсіх вялікіх і малых гарадах Савецкага Саюза.

Разам з савецкімі людзьмі пасланцы больш чым ста дваццаці краін, Сусветнай федэрацыі прафсаюзаў, іншых міжнародных арганізацый прынялі ўдзел у святкаванні 1-га Мая ў Маскве. Тут прысутнічалі кіраўнікі дыпламатычных прадстаўніцтваў зарубежных дзяржаў, акрэдытаваных ў СССР.

Нямала замежных гасцей, студэнтаў з многіх краін свету прайшлі таксама ў калонах дэманстрантаў у Мінску, выказваючы сваю салідарнасць з савецкім народам у справе міру і інтэрнацыянальнай дружбы.

Асабліва прыгожая сталіца Савецкай Беларусі ў дзень Першамая. Святочна выглядала плошча У. І. Леніна, дзе адбылася дэманстрацыя працоўных. На гасцявых трыбунах — дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР і Вярхоўнага Савета БССР, ветэраны партыі і Вялікай Айчыннай вайны, перадавікі і наватары вытворчасці, дзеячы навукі і культуры, госці мінчан.

На плошчы — сцяг горада-героя Мінска, памятныя сцягі, якімі адзначаны пра[illegible]ныя поспехі мінчан.

Угляда[illegible]я ў лічбы іх рапарта пралетарскаму святу: звыш плана 4-х месяцаў выпушчана таварнай прадукцыі на 35 мільёнаў рублёў, тавараў народнага спажывання — на 38 мільёнаў рублёў; увесь прырост аб'ёму вытвор[illegible]сці забяспечан за кошт павышэн[illegible] радукцыйнасці працы; у першым [illegible]артале ўведзена ў эксплуатацыю 3 400 кватэр, што перавышае планавае заданне.

Кветкі, яркія пано, кідкія транспаранты ў руках дэманстрантаў, усмешкі і радасць на тварах людзей — усё падкрэслівала святочнасць, стварала выдатны настрой.

Урачыста адзначыўшы дзень яднання сусветнага пралетарыяту, працоўныя беларускай сталіцы прадэманстравалі сваю рашучасць паглыбляць працэс перабудовы, якая напоўніла новым сэнсам барацьбу партыі і народа за выхад краіны на якасна новую ступень эканамічнага, сацыяльнага і духоўнага прагрэсу, за дастойную сустрэчу знамянальнага юбілею — 70-годдзя Вялікага Кастрычніка.

Вечарам мінчане сталі сведкамі святочнага салюта, любаваліся рознакаляровымі яго агнямі. На плошчах, у парках і скверах праходзілі народныя гулянні.

Першамайскія дэманстрацыі і ўрачыстасці прайшлі ва ўсіх кутках нашай рэспублікі.

**НА ЗДЫМКАХ: Мінск. 1 мая 1987 года. Дэманстрацыя працоўных на плошчы імя У. І. Леніна.**





МІЖНАРОДНЫЯ ЛЕНІНСКІЯ ПРЭМІІ

### ЗА ЎМАЦАВАННЕ МІРУ

Напярэдадні Першамая адбылося пасяджэнне Камітэта па міжнародных Ленінскіх прэміях «За ўмацаванне міру паміж народамі».

За выдатныя заслугі ў барацьбе за захаванне і ўмацаванне міру прэміі прысуджаны: Джуліусу К. Ньерэрэ — палітычнаму і дзяржаўнаму дзеячу (Аб'яднаная Рэспубліка Танзанія), Герберту Місу — палітычнаму дзеячу (Федэратыўная Рэспубліка Германii), Пятру Танчаву — палітычнаму і дзяржаўнаму дзеячу (Народная Рэспубліка Балгарыя), Дароці Ходжкін — вучонаму, грамадскай дзеячцы (Вялікабрытанія), Мігелю д'Эскота Брокману — дзяржаўнаму дзеячу (Рэспубліка Нікарагуа).

МІТЫНГІ

### ВЫКАЗАЛІ САЛІДАРНАСЦЬ

Гарачую падтрымку свабодалюбівага афганскага народа, які мужна адстойвае заваёвы Красавіцкай рэвалюцыі, будуе новае жыццё, выказалі прадстаўнікі моладзі на вечарымітынгу, што адбыўся 27 красавіка ў Мінску. Ён праходзіў у рамках Тыдня салідарнасці з народам Афганістана, праведзеным у нашай краіне па закліку Сусветнага Савета Міру з 21 па 27 красавіка. Удзельнікі мітынгу запатрабавалі ад ЗША перастаць забяспечваць навейшай зброяй банды душманаў і абучаць іх з дапамогай сваіх інструктараў у размешчаных на тэрыторыі Пакістана лагерах. Аднагалосна прынятую рэзалюцыю юнакі і дзяўчаты адправілі ў адрас Сусветнага Савета Міру.

Выступаўшыя на мітынгу адзначалі, што за дзевяць гадоў, якія прайшлі пасля Красавіцкай рэвалюцыі, нягледзячы на развя[illegible]ую імперыялістычнымі коламі [illegible]яўленую вайну, ДРА дабілася зна[illegible]ных поспехаў у эканамічным і культурным будаўніцтве. Аб'яўлены ўрадам рэспублікі курс на нацыянальнае прымірэнне знаходзіць усё больш шырокую падтрымку сярод розных слаёў насельніцтва, выклікае п[illegible]ўны міжнародны рэзананс.

Мітынгі салідарнасці з гераічнай барацьбой народа Афганістана адбыліся ў многіх гарадах і вёсках рэспублікі.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

### ДЭЛЕГАЦЫЯ З МАНГОЛІІ

На працягу тыдня ў Беларусі знаходзілася дэлегацыя работнікаў гандлю Мангольскай Народнай Рэспублікі на чале з міністрам гандлю і нарыхтовак МНР Шараўсамбу.

Госці з Манголіі азнаёміліся з вопытам арганізацыі і перспектывамі развіцця гандлю, пытаннямі ўдасканалення планавання, эканамічнага стымулявання і кіравання галіной у рэспубліцы.

Дэлегацыя пабывала на прадпрыемствах гандлю і грамадскага харчавання Мінска і Брэсцкай вобласці, наведала гістарычныя месцы Беларусі.

### АНГЛІЙСКІ МАСТАК У МІНСКУ

Па запрашэнню Саюза савецкіх таварыстваў дружбы нашу краіну наведаў англійскі мастак Эндру Тэрнер, старшыня аддзялення Таварыства брытана-савецкай дружбы ў горадзе Лідсе. Разам з жонкай і чатырохгадовай дачкой ён на чатыры дні прыехаў у Мінск.

На сустрэчы ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі Э. Тэрнер расказаў, што знешнепалітычныя ініцыятывы Савецкага Саюза, якія адкрываюць шлях да міру, разрадкі і раззбраення, знаходзяць усё большае разуменне і падтрымку сярод простых брытанцаў. Зараз васемнаццаць гарадоў Вялікабрытаніі развіваюць партнёрскія сувязі з савецкімі гарадамі. За ўстанаўленне такіх кантактаў выказалася абсалютная большасць жыхароў нашага горада, сказаў Тэрнер, і я маю даручэнне актывістаў аддзялення Таварыства брытана-савецкай дружбы правесці перагаворы з савецкімі сябрамі па гэтаму пытанню.

У час знаходжання ў Мінску госці з Вялікабрытаніі пазнаёміліся з памятнымі мясцінамі горада, а таксама зрабілі паездку ў Вільнюс — сталіцу Літвы.

АДУКАЦЫЯ

### ШКОЛА «КАМП'ЮТЭР»

Нядаўна ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце пры кафедры прыкладной матэматыкі і праграміравання арганізавана школа, якая атрымала назву «Камп'ютэр». Вучні дзевятых класаў гарадскіх школ змогуць тут замацоўваць і пашыраць веды, набытыя пры вывучэнні школьнага курса «Асновы інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі». Праграма вучобы для будучых матэматыкаў і праграмістаў разлічана на паўтара года.

КАНФЕРЭНЦЫІ

### КУЛЬТУРНЫ НАБЫТАК — НАРОДУ

У Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры.

З дакладам аб задачах і асноўных напрамках дзейнасці арганізацыі выступіла старшыня аргкамітэта, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай.

Вялікая ўвага ў дакладзе і выступленнях была ўдзелена доўгатэрміновым мэтавым праграмам, распрацаваным Савецкім фондам культуры з часу яго заснавання ў лістападзе 1986 года. Адна з іх — праграма «Памяць» — фарміруецца на ўжо створаным фундаменце. Да сённяшняга дня ў Беларусі ўлічана 15 210 помнікаў гісторыі і культуры, з іх 10 815 узяты пад дзяржаўную ахову. Асобае месца належыць тысячам помнікаў, якія ўвекавечваюць гераізм савецкага народа ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 34 гарадах рэспублікі захаваліся ансамблі старажытных цэнтраў і комплексы гістарычнай забудовы. Чакаецца вялікая работа па іх рэгенерацыі і рэканструкцыі. У ажыццяўленні гэтай праграмы неабходна падтрымка грамадскасці, Фонду культуры, каб не дапусціць памылак пры распрацоўцы планаў і рэканструкцыі старых гарадоў, функцыянальным выкарыстанні помнікаў.

У ліку задач аддзялення фонду былі названы ўмацаванне сувязей музеяў з калекцыянерамі, уключэнне ў скарбніцу культуры мастацкіх каштоўнасцей, гістарычных рэліквій, рукапісаў, дакументаў, архіваў, іх адкрыццё шырокаму гледачу, а таксама адшуканне і вяртанне на радзіму твораў мастацтва, помнікаў гісторыі і культуры беларускага народа, якія аказаліся за граніцай.

Дэлегаты канферэнцыі выбралі кіруючыя органы Беларускага аддзялення Савецкага фонду культуры.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГРОДНА. Тут адкрылася абласная філармонія. У аглядзе прэтэндэнтаў на званне артыстаў філармоніі будуць удзельнічаць прафесіянальныя калектывы і выканаўцы, а таксама народныя ансамблі песні і танца «Нёман», «Раніца», «Лідчанка», ансамбль старадаўняй музыкі «Канчэнта», іншыя самадзейныя калектывы.

ХОЙНІКІ. У раёне створана служба грамадскай думкі. Кожны жыхар па тэлефоне «05» ці пісьмова можа выказаць прапановы, просьбы, крытычныя заўвагі па арганізацыі вытворчасці, работы жыллёва-камунальнай гаспадаркі, гандлёваму, бытавому, медыцынскаму абслугоўванню, правядзенню вольнага часу. У вызначаныя дні дзейнічае прамая сувязь з кіраўнікамі раёна, якія даюць адказы на ўсе злабадзённыя пытанні.

СЛОНІМ. Генадзь Дзядзечкін — вядомы ў горадзе калекцыянер самавараў. Усе экспанаты яго дамашняга музея па-свойму арыгінальныя. Яны выкананы ў выглядзе шароў, ваз, амфар, фужэраў, аздоблены мельхіёрам, слановай косцю, пад колер бронзы і серабра. Самы маленькі ўмяшчае два літры, самы вялікі — пяцівядзёрны. Але больш за ўсё ганарыцца гаспадар самаварам-збіценнікам XVII стагоддзя, выкананым у форме чайніка.

*ЯК МЫ КАРЫСТАЕМСЯ СВАІМІ ПРАВАМІ*

# АДКУЛЬ ІДЗЕ ДАБРО

**Пра справядлівасць мы ўспамінаем, калі яе нам не стае. У апошні час, мяркуючы па той пільнай увазе, якую надаюць гэтай тэме савецкія газеты, успамінаем усё часцей. Ці значыць гэта, што вакол раптам стаў праяўляцца дэфіцыт дабра? Можа грамадства, занятае праблемамі народнагаспадарчай перабудовы, дзеля агульнай мэты ахвяруе інтарэсамі асобных людзей?**

У нейкай ступені — і пра гэта адкрыта сказана з самых высокіх трыбун — недахопы ў сферы практычнага ўвасаблення так шырока гарантаваных Канстытуцыяй СССР правоў чалавека ў апошнія пяць-дзесяць гадоў сталі заўважацца часцей. Возьмем хаця б тыя абуральныя выпадкі, калі службовыя асобы, якія павінны абараняць грамадзян ад несправядлівасці, выкарыстоўваюць дадзеную народам уладу для абмежавання чыіх-небудзь правоў. Колькі пра гэта пішуць газеты!

Даводзілася чуць ад прававедаў, што гэта—зваротны, а таму, быццам, на нейкім этапе нават непазбежны бок усё таго ж працэсу дэмакратызацыі грамадства.

Але ці не ўзнікаюць такога роду канфлікты на глебе нашай уласнай прававой бяздзейнасці? Размова ідзе не пра выпадкі, калі мы патрабуем сатысфакцыі па прычыне якіх-небудзь банальных адміністрацыйных «перагібаў». Тут якраз мы юрыдычна падкаваныя. Маю на ўвазе сітуацыі іншага маштабу: чалавек і грамадства, чалавек і дзяржава.

Чаму, сутыкаючыся ў жыццёвых перыпетыях з двуадзінай формулай «правы і абавязкі», мы часам з нейкай сарамлівасцю схільны замоўчваць аб першай яе састаўной і спяшаемся прызнацца (нярэдка толькі на словах) у палымянай любві да другой? Чаму ледзь ці не ганебным лічыцца карыстацца тым, што дае чалавеку сацыялізм, у што ўкладзена, нарэшце, наша ўласная праца?

Напэўна, гэта не дарэмныя скаргі наконт нявыкарыстаных кімсьці даброт. Таму што калі чалавек не ведае сваіх правоў, не карыстаецца спаўна імі, то і ў стаўленні да абавязкаў у яго нярэдка складваюцца цынічныя адносіны: «грамадства не клапоціцца пра мяне, чаму ж тады я павінен клапаціцца пра яго даброты?»

Думкі гэтыя ўзніклі, калі перабіраў нядаўна свае журналісцкія запісы. Аказаліся сярод іх тры гісторыі аб людзях, якія трапілі ў экстрэмальную сітуацыю. Гісторыі розныя, але па сутнасці пра адно: сацыяльную справядлівасць, праяўленні якой вакол нас разнастайныя. Аб тым, што карыстаемся мы імі іншы раз, не ўсведамляючы, адкуль ідзе дабро. Іншы раз, наадварот, патрабуем і—атрымліваем! — тое, аб чым павінны б паклапаціцца самі. Наогул, аб тым, што правы свае варта ведаць і ўмець іх адстойваць.

### ГІСТОРЫЯ ПЕРШАЯ, РАСКАЗАНАЯ ЛЮДМІЛАЙ НОВІК, КАЛГАСНІЦАЙ

Вёска Пагоннае, дзе жыла Людміла з сям'ёй, размешчана на поўдні Беларусі, у Хойніцкім раёне. Усяго за два дзесяткі кіламетраў ад яе — карпусы Чарнобыльскай АЭС. Менавіта адтуль ноччу 26 красавіка летась прыйшла бяда.

Аб тым, што здарылася, людзі даведаліся на наступную раніцу. А потым у вёсцы з'явіліся людзі з нейкімі прыборамі, успамінала Людміла. Прыехалі і ўрачы. Жыхарам раздалі прафілактычныя медыкменты і растлумачылі, як імі карыстацца. А калі высветлілася, што знаходзіцца ў вёсцы небяспечна для здароўя, на цэнтральную вуліцу прыгналі калону аўтобусаў і людзей эвакуіравалі.

Ад'язджаючы з Пагоннага, сям'я Новік і іх аднавяскоўцы яшчэ не ведалі, што пакідаюць родныя мясціны надоўга, можа быць, назаўсёды. І не толькі мясціны, але і ўсё, што было нажыта за працоўнае жыццё. Маёмасць сям'і— ад хаты-пяцісценкі да хлява са звычайнай свойскай жывёлінай, ад любімых сукенак Людмілы і да цацак шасцігадовага Дзімы — усё засталося там.

Што было потым, чытачу ўжо, напэўна, знаёма па рэпартажах аб ліквідацыі выніkaў аварыі. У бяспечных раёнах, куды эвакуіравалі людзей, мясцовыя жахары далі ім часовы прытулак. Прынялі цёпла, дзяліліся ўсім, што было. Праз сельскія Саветы перасяленцам выдзелілі самае неабходнае, што трэба на першы час—бялізну, сёе-тое з адзення, грошы. Прапанавалі работу.

І ўсё ж, расказвала Людміла, на душы было неспакойна. І нават не за здароўе — усіх рэгулярна абследавалі. Непакоіла будучыня: як [illegible] ўладзіцца.

Сёння для Людмілы Новік гэтыя асцярогі ў мінулым. Яшчэ да першых восеньскіх замаразкаў сям'я атрымала ад дзяржавы новы дом, пабудаваны на ўскраіне вёскі Кірава, на беразе Дняпра. Усяго чатыры месяцы спатрэбілася будаўнікам, каб узвесці 200 камфартабельных трох- і чатырохкватэрных дамоў коштам 30—40 тысяч рублёў кожны. Перасяленцам, зразумела, яны прадастаўлены бясплатна.

Сям'я абжываецца на новым месцы. Кватэра прасторная, чатырохпакаёвая, па прызнанню самой гаспадыні, лепшая, чым ранейшая. Выдзелены ўчастак для падсобнай гаспадаркі, ёсць на падвор'і гаспадарчыя пабудовы. Акрамя гэтага, дзяржава выплаціла грашовую кампенсацыю за пакінутую ў Пагонным маёмасць. Сродкаў гэтых з лішкам хапіла на новую мэблю, інвентар, адзенне...

Зразумела, вера людзей у тое, што іх не пакінуць у бядзе, падказаная іх сацыяльным вопытам, сама па сабе факт, які сведчыць на карысць сацыялізму, яго гуманай сутнасці. Аднак ні ў расказе Людмілы Новік, ні ў размовах з яе аднавяскоўцамі мне не давялося пачуць, што дзяржава **абавязана** была ў гэтым выпадку паклапаціцца пра людзей, якія пацярпелі ад аварыі. Атрымаць кампенсацыю—права грамадзяніна. Праўда, жыхарам Пагоннага не давялося звяртацца ў суд, каб рэалізаваць свае правы, як, напэўна, зрабілі б, пацярпеўшыя па віне, скажам, прамысловых карпарацый грамадзяне ў краінах, дзе дэмакратыя пісана па логіцы буржуазнага грамадства. Але ж землякі Людмілы Новік сваіх правоў **не ведалі.** Можа таму па першым часе ўзнікала нямала лішніх канфліктаў, перажыванняў. Мне давялося быць у тыя першыя дні ў зоне аварыі, і ўспамінаю, колькі ў людзей з'яўлялася хваляючых пытанняў, на якія яны тады не атрымалі адказу, таму што тыя, да каго звярталіся за тлумачэннямі, іншы раз таксама былі «не ў курсе».

### ГІСТОРЫЯ ДРУГАЯ, ЯКАЯ ЗДАРЫЛАСЯ З ТАЦЦЯНАЙ ГАРКАЛЮК, КРАНАЎШЧЫЦАЙ

Сваёй ранейшай работай Таццяна асабліва не магла пахваліцца, хоць і скардзіцца не даводзілася. Працавала дзяжурнай стрэлачнага паста на станцыі Жабінка, што непадалёку ад Брэста. Пераводзіць стрэлкі на пуцях — занятак неклапатлівы, дзяжурствы пазменныя: пасля 12 гадзін работы двое сутак прабаўляла дома.

І раптам у пачатку мінулага года жанчына даведалася, што яе пасаду збіраюцца ліквідаваць, таму што на чыгунцы пачаўся эксперымент. Рабочым расказалі, што ў выніку ўкаранення аўтаматыкі і рацыяналізацыі рабочых месцаў у Беларусі будуць вызвалены 12 тысяч чыгуначнікаў, а за кошт іх зарплаты павысяць аклады астатнім.

Натуральна, такая перспектыва Таццяну не радавала, таму што пошукі новага месца работы заўсёды звязаны з пэўнымі клопатамі.

Яшчэ задоўга да таго, як на ўчастку пачаўся мантаж новага абсталявання, работніцу запрасілі ў прафсаюзны камітэт. Там прапанавалі на выбар некалькі новых месцаў. Можна было застацца на чыгунцы, асвоіўшы новую прафесію. Былі запрашэнні з іншых прадпрыемстваў. Таццяна вырашыла, што пойдзе працаваць на цукровы завод, які недалёка ад яе дому. На новым месцы яе залічылі на курсы кранаўшчыц. Зарплата на заводзе на 40 рублёў больш, чым на чыгунцы. Такім чынам, змяніўшы работу, жанчына артымала нават немалую выгаду. У Таццяны з'явілася хадавая прафесія, магчымасці для росту кваліфікацыі і зарплаты.

Да расказанага Таццянай Гаркалюк можна дадаць, што прыкладна такім чынам вырашылася пытанне з астатнімі з 12 тысяч чыгуначнікаў, якіх скарацілі ў выніку эканамічнага эксперыменту на чыгунцы. Нікому з іх не трэба было самому шукаць новае месца работы. Ніхто практычна не страціў і матэрыяльна: у абарону сваіх правоў у суд звярнуліся ўсяго некалькі чалавек.

Па журналісцкіх справах мне даводзілася бываць у калектывах чыгуначнікаў у самы разгар эксперымента. Некаторыя скардзіліся: чаму, маўляў, скарачаюць мяне, а не другога? Праўда, ніхто не баяўся, што можа застацца без работы: права на працу гарантавана канстытуцыяй, гаспадарка ў нас планавая, значыць, месца мне знойдуць.

Думаецца, падобныя разважанні блізкія да сафізму. Сапраўды, беспрацоўе і сацыялізм — рэчы несумяшчальныя. І дзяржава дапаможа працаўладкавацца. Напрыклад, праз мясцовыя бюро па працаўладкаванню, дзе заўсёды вялікі банк вакансій, ці стварыўшы новыя рабочыя месцы. Але чаму яно павінна пры гэтым літаральна нянчыцца з намі? Каб месца не горшае, зарплата не ніжэйшая і начальнік такі ж лаяльны.

А ці не разумней было б у такой сітуацыі хапацца не за свае правы, а падумаць пра абавязкі, уласны гонар, урэшце. Дакажы сваю кампетэнтнасць, стань тым работнікам, без якога нельга абысціся — і жыццё паставіць цыбе пад сонца, а не ў цень.

Сацыялізм добры, а не добранькі. І філасофія «дабро з лыжачкі» не на карысць нам.

### ГІСТОРЫЯ ТРЭЦЯЯ, УЗЯТАЯ СА «СПРАВЫ» УЛАДЗІМІРА ДАНІЛЬЧЫКА

45-гадовы механік Уладзімір Данільчык цяпер як ніколі перакананы, што за справядлівасць, дабро трэба змагацца. Таму што прынцыпы і законы, нават самыя дэмакратычныя, праводзяць у жыццё людзі. А сярод іх сустракаюцца не толькі анёлы.

...Уладзімір працаваў у рэфрыжэратарным цэху вагоннага дэпо горада Маладзечна. Работа спецыфічная: па паўмесяца і больш у камандзіроўках, суправаджаў у дарозе халадзільныя вагоны з прадуктамі. За работу ў выхадныя даюцца адгулы, якіх набіралася нямала. Але раптам Уладзімір пачаў заўважаць, што адміністрацыя прадастаўляе адгулы не ўсе і не адразу. Заўважыў механік і тое, што яму няправільна налічваюць аплату за звышурочныя, камандзіроўкі. Звярнуўся да кіраўніцтва цэха, затым—дэпо і ўсюды атрымліваў адмову ў рэзкай, нават грубой форме: «начальства ведае лепш».

Пералік усяго, што здарылася з рабочым далей, заняў бы не адну старонку. Уладзімір Данільчык прайшоў са сваімі скаргамі многія інстанцыі. Дабраўся да міністэрства. Затрабаванні яго, нарэшце, прызналі правільнымі. Парадак быў наведзены. Але аказалася, што напярэдадні новыя выпрабаванні. Ён адчуў, што кіраўніцтва дэпо пачало чапляцца да яго па кожнай дробязі і проста без прычын. Нарэшце, знайшоўшы надуманую прычыну, Данільчыка звольнілі. Зноў — хаджэнні па інстанцыях (адразу ж звярнуцца ў суд Уладзімір не здагадаўся), зноў—разборы. Вярнуўся на работу. Паўторнае звальненне — і зноў канчатковае аднаўленне пасля таго, як умяшалася прававая інспекцыя прафсаюзаў.

Была ва ўсім гэтым канфлікце «падводная» прычына. Уладзімір Данільчык выступіў у свой час з рэзкай крытыкай кіраўніцтва дэпо, якое запусціла работу па ўкараненню новай тэхнікі, прагрэсіўнай тэхналогіі. Былі выкрыты факты крадзяжу сацыялістычнай уласнасці, чынашанавання. Абвінавачанні былі дастаткова сур'ёзныя, і, каб засцерагчы ад небяспекі сябе, адміністрацыя не прыдумала нічога лепшага, як пазбавіцца ад неспакойнага механіка...

Справядлівасць адноўлена. Данільчык зноў працуе. Кіраўніцтва пакарана. А ці мог шлях да ісціны быць карацейшым?

Мог, калі б рабочы цвёрда ведаў свае правы і больш рашуча карыстаўся імі. Публічнасць, права на крытыку, права на праўду ва ўвесь голас і ва ўсім — не мода сённяшняга дня. Гэта ўмова, пры якой можа перамагчы перабудова, з якой мы звязваем шчырыя надзеі на будучыню. Калі б Данільчык не стаў у абарончую позу, а звярнуўся за дапамогай да калектыву— выйграла б агульная справа. Пастаяць за сябе таксама трэба ўмець.

Здольнасць разумна карыстацца дабротамі сацыялізму — навука, без якой наш сацыяльны прагрэс будзе не такім эфектыўным, як хацелася б яго бачыць. А лабараторыя для гэтай навукі—нашы будні.

**В. УЛАДЗІМІРАЎ.**

---

**ЖАНЧЫНА**

**І ГРАМАДСТВА**

# МІЛЬЁН У СПОРЦЕ

Субяседніц я сабе спецыяльна не выбірала. Проста ў час заканчэння рабочай змены падышла да прахадной Мінскага трактарнага завода, дзе лёгка разгаварылася спачатку з адной, затым з другой жанчынай...

У першыя хвіліны нашай размовы жанчыны аднадушна скардзіліся: загінаючы пальцы, яны пералічвалі свае хатнія клопаты, падлічвалі, у колькі разоў у іх мужоў больш вольнага часу...

— Усё гэта, вядома, так,— перапыніла паток разважанняў рабочая Л. Тарох.—Клопатаў у кожнай з нас дастаткова. Але толькі і для адпачынку час і магчымасці пры жаданні знойдуцца. Я, напрыклад, працую на гэтым заводзе вось ужо 19 год. Пасля змены спяшаюся дадому: і муж, і дочкі—іх у мяне дзве—патрабуюць увагі. Аднак гэта зусім не перашкаджае мне займацца ў вакальнай групе ў заводскім Палацы культуры. Два вечары ў тыдзень мы праводзім рэпетыцыі, у выхадныя дні нярэдка даём канцэрты.

18 год займаецца ў мастацкай самадзейнасці і інжынер па тэхнічнай інфармацыі Н. Чысцякова. Яна салістка заводскага танцавальнага ансамбля «Лявоніха».

— Прыйшла я ў ансамбль, калі яшчэ вучылася ў сярэдняй школе,—расказвае Чысцякова. — І так мне тут спадабалася, што жартам сказала: буду танцаваць да пенсіі. Сяброўкі смяяліся: пачакай, вось выйдзеш замуж, з'явяцца дзеці, не да танцаў будзе. І памыліліся.

Так, насуперак «сумнаму» пачатку нашай размовы паступова высветлілася, што многія жанчыны — работніцы трактарнага завода, нягледзячы на «двайную нагрузку», знаходзяць час і для сваіх захапленняў.

— Безумоўна, праблема «звышзанятасці» жанчын існуе, — лічыць Л. Хатылёва, акадэмік, дырэктар Інстытута генетыкі і цыталогіі АН БССР. — Але гэта праблема не такая страшная, як яе часам малююць. Падзялюся сваім назіраннем: у нашым інстытуце лепшыя работніцы — менавіта маці сямейства. Яны больш ініцыятыўныя, сабраныя, больш паспяваюць—гэта значыць умеюць арганізаваць свой час. Многае для аблягчэння жаночых клопатаў робіцца і адміністрацыяй, прафсаюзамі, дзяржавай. У прыватнасці, амаль кожная беларуская сям'я карыстаецца паслугамі дашкольных устаноў. У выхаванні дзяцей бацькам памагаюць піянерскія лагеры, розныя гурткі і секцыі ў прафсаюзных клубах, гарадскіх Палацах піянераў. Павышэнне прафесіянальнай кваліфікацыі жанчын, якія маюць малалетніх дзяцей, на вытворчасці праводзіцца ў рабочы час. Усё больш традыцыйна жаночых клопатаў па дому — мыццё бялізны, прыбіранне і да т. п. — бярэ на сябе служба быту. Так што часу для сябе ў жанчын становіцца больш, галоўнае — умець ім распарадзіцца...

Наколькі ім гэта ўдаецца, можна меркаваць па некаторых даных афіцыйнай статыстыкі па Беларусі. Жанчыны складаюць больш палавіны удзельнікаў мастацкай самадзейнасці. Каля мільёна жанчын займаюцца ў спартыўных секцыях. Звыш сарака працэнтаў працуючых жанчын-маці, абцяжараных, натуральна, немалымі клопатамі, аддаюць перавагу актыўнаму адпачынку: загарадныя паездкі, экскурсіі, турыстычныя паходы, наведванне паркаў і да т. п.

**Наталля БУЛДЫК.**

*ЕСЛИ ВАС ИНТЕРЕСУЮТ ПРОБЛЕМЫ НАСЛЕДСТВА*

# МИНСК, УЛИЦА ГОРЬКОГО, 70

**По такому адресу недавно переехало Представительство Инюрколлегии в БССР. Основанная в апреле 1937 года, ровно полвека назад, Иностранная юридическая коллегия принимает теперь от советских граждан для ведения за рубежом и от иностранных граждан для ведения на территории нашей страны дела, связанные с наследством, получением личной собственности, пенсий, бракоразводными делами и другими. Поскольку многие наши читатели в своих письмах интересуются этими вопросами, мы попросили более подробно рассказать о работе этой организации уполномоченного Инюрколлегии в Белорусской ССР Олега ДОБРОТВОРСКОГО.**



„ПРОШУ оказать содействие в получении наследства...» — такими словами обычно начинаются письма граждан, адресованные Представительству Инюрколлегии в БССР.

Сразу дать однозначный ответ на такие письма не представляется возможным, поскольку каждое дело требует детального предварительного изучения. При разрешении таких вопросов необходимо знать, гражданином какой страны был наследодатель на момент его смерти, содержание правовых норм, регулирующих распределение наследства по месту его открытия.

Только глубокое изучение и знание Основ гражданского законодательства Союза ССР и союзных республик, иностранного наследственного законодательства, отдельных международных договоров об оказании правовой помощи и других нормативных актов позволяет сделать выводы о перспективе либо нереальности возникшего вопроса.

Инюрколлегия, 50-летие создания которой отмечается в текущем году, призвана защищать интересы граждан и организаций за пределами СССР, а равно интересы иностранных граждан и организаций на территории СССР.

Инюрколлегия была создана в городе Москве и по мере расширения своей деятельности создавала свои Представительства в различных союзных республиках: Украинской ССР, Литовской, Латвийской, Эстонской, Армянской ССР. В 1981 году Представительство Инюрколлегии было открыто в Белорусской ССР.

Для более успешного осуществления своих задач Инюрколлегия заключила ряд соглашений с иностранными адвокатскими фирмами и отдельными адвокатами. Например, с адвокатскими фирмами «Вольф, Поппер, Росс, Вольф и Джонс» в США, «Тернер Кеннет Браун» в Лондоне и другими. Мы называем их иностранными корреспондентами.

От них Инюрколлегия получает информацию об открывшихся наследствах за границей, наследники по которым могут проживать в СССР. В отдельных случаях имеются завещания в пользу конкретных лиц с указанием их адресов. При таких ситуациях Инюрколлегии проще произвести оформление дела. Например, как это случилось после смерти Михаила Стомоля, умершего в США в 1981 году, который при жизни оставил завещание в пользу своих племянников, проживающих в Белоруссии. При содействии наших инкорреспондентов причитающаяся сумма переведена в СССР и выплачена наследникам.

В большинстве же случаев Инюрколлегия получает сведения о том, что наследодатель родился в определенной местности или вообще был выходцем из России.

В таких случаях Инюрколлегия прибегает к помощи государственных архивов, исполкомов Советов народных депутатов, отделов внутренних дел, отдельных граждан, публикаций в периодической печати.

В свою очередь, наследники должны представить убедительные доказательства, подтверждающие родственные отношения с наследодателем. К таким доказательствам относятся письма, открытки, телеграммы, декларации, документы и т. д.

После установления всех лиц, имеющих право на наследство, Инюрколлегия извещает об этом инкорреспондентов, представляет документы, подтверждающие родственные отношения, оформляет доверенности и выполняет ряд других формальностей, необходимых для утверждения в правах наследников и получения наследственных активов.

Наследственные активы поступают в СССР в пользу наследников только после завершения наследственного производства за границей, когда соответствующие компетентные органы определят круг наследников по делу и распределят наследство в пользу каждого наследника.

Из суммы наследства, причитающейся нашим наследникам, удерживаются расходы по делу, налоги, гонорар инкорреспондентов, размер которого определяется в каждом конкретном случае на основании соглашений, о которых говорилось выше.

При встречах с соотечественниками из других стран нередко можно слышать о том, что якобы наследственные суммы в СССР не выплачиваются, а обращаются в доход государства либо наследникам против их воли предлагается расходовать наследственные суммы не по их усмотрению.

В несостоятельности подобных мнений легко убедиться хотя бы потому, что ни одного конкретного примера на данную тему никто и никогда не привел. Да и привести их невозможно, поскольку таких примеров в СССР не существует.

Получая полностью наследство, которое в СССР не облагается налогом, клиенты Инюрколлегии пользуются льготами при обмене инвалюты на чеки Всесоюзного Объединения «Внешпосылторг» и приобретении товаров в специализированных магазинах, в том числе автомобилей, кооперативных квартир и т. д.

Следует отметить, что, только выполняя волю наследодателя, наследство в СССР может быть обращено в доход государства либо передано государственным или общественным организациям.

Имеются случаи, когда наследство в СССР поступает не в пользу отдельных граждан, а для организаций. К примеру, известный певец Михаил Забейда, проживавший в Чехословакии, при жизни завещал свой личный архив Центральному государственному архиву-музею литературы и искусства Белорусской ССР. Его воля исполнена, и в настоящее время редкие документы, такие, как переписка с Полем Робсоном, Федором Шаляпиным и другие, пополнили материалы музея и стали достоянием всех граждан республики. Подобное наследство нельзя оценить в денежном выражении, его культурная и историческая значимость для нашего народа бесценна.

Согласно существующему законодательству, несовершеннолетние и совершеннолетние, но нетрудоспособные дети могут получать алименты от родителей, нетрудоспособные родители от детей. При определенных обстоятельствах несовершеннолетние дети могут получать содержание и от других близких родственников.

Инюрколлегия при наличии к тому законных оснований подтверждает алиментный характер сумм, добровольно направляемых родственниками из-за границы в СССР. Эти суммы, как и наследственные, выплачиваются на льготных условиях.

Вот уже не первый год Инюрколлегия ведет дело в интересах жителя города Минска Сергея Конюшенко, несовершеннолетняя дочь которого, Джульетта, остается по сей день во Франции, вдали от Родины, от своих родных и близких. Джульетта выехала во Францию вместе с матерью. Но в 1984 году ее мать трагически погибла, и девочка осталась одна среди чужих людей. Казалось бы, какие права имеют на несовершеннолетнего ребенка посторонние лица или организации при живом отце, который обоснованно требует передать ему дочь на воспитание. Однако еще существуют силы, которые пытаются лишить Джульетту родительской ласки, хотя она имеет на нее полное право.

Инюрколлегия предпринимает все меры к тому, чтобы Джульетта обрела счастливое детство и быстрее оказалась в кругу своей семьи.

Важное место в работе Инюрколлегии занимает защита законных прав и интересов иностранных граждан и организаций на территории СССР.

Примером тому могут служить дела о возмещении материального ущерба, наследственные дела и другие.

Так, после смерти в штате Нью-Йорк гражданина США Бориса Бараника в 1981 году в Инюрколлегию обратились его жена Фрида Бараник и сыновья Роман и Григорий Бараник, постоянно проживающие в США, с просьбой оказать содействие в получении наследства. В результате проведенной работы было получено свидетельство о праве на наследство на денежный вклад, хранящийся в сберегательной кассе в СССР, и причитающаяся наследникам сумма переведена по назначению в США.

Хочется сказать и о том, что в последние годы, в связи с обострением международной обстановки, во многих странах усиливается борьба за сохранение мира. И мы становимся нередко свидетелями проявления советскими людьми высокого патриотизма. Это подтверждается поступающими в адрес Инюрколлегии заявлениями наследников с просьбой перевести часть наследственных сумм в Советский фонд мира.

Среди наших клиентов, проживающих в Белорусской ССР, перечисливших часть наследственных сумм на цели укрепления мира и дружбы между народами, можно назвать Марию Шунейко, Станиславу Романчик, Янину Лапоренок, Валентину Мартунович, Василису Радкевич и многих других.

В заключение хотел бы сказать, что читатели газеты, любой из соотечественников, проживающих за рубежом, могут получить консультацию по интересующим их вопросам непосредственно в нашем Представительстве, адрес которого теперь им известен. Мы будем рады встретиться с вами на нашей гостеприимной земле.

# ХОТИМ СТАТЬ КОСМОНАВТАМИ

Просторное светлое здание на Ленинских горах с зимним садом, залитое ярким солнцем, хорошо известно московским ребятам, интересующимся космосом. Здесь, во Дворце пионеров и школьников, вот уже 25 лет работает Клуб юных космонавтов. Созданный сразу же после полета Юрия Гагарина, он дал путевку в большую авиацию и космонавтику более чем 300 своим выпускникам.

Только в прошлом году 14 воспитанников клуба поступили в Московский авиационно-технологический и Московский авиационный институты. Многие стали курсантами летных училищ. Но еще учась в средней школе, пятнадцати-шестнадцатилетние подростки поступают в летно-спортивные клубы, где получают достаточно хорошую теоретическую подготовку и приобретают навыки прыжков с парашютом, а также определенный налет часов на спортивных самолетах.

Каковы правила поступления в клуб? Сюда приходят ребята с шести лет, т. е. с первого класса общеобразовательной школы, и занимаются вплоть до ее окончания. Есть и такие, кто продолжает посещать Клуб космонавтов и после завершения учебы в школе. В общем, чтобы стать юным космонавтом, нужно иметь, во-первых, желание, во-вторых, хорошее здоровье. Последнее определяет медицинская комиссия. Некоторым ребятам врачи комиссии дают специальные рекомендации для занятий на тех или иных снарядах. Дело в том, что будущие летчики и космонавты проходят физическую и психологическую подготовку на специальных профессиональных тренажерах. Поэтому такие индивидуальные рекомендации иногда просто необходимы. Ведь ребята занимаются на ренском колесе, центрифуге, безопорном стенде, в кресле Барони. Эти упражнения служат для тренировки вестибулярного аппарата. В реальном полете, а, как известно, самолет летает в трех измерениях, пилот должен хорошо ориентироваться в пространстве, чувствовать положение своего тела. Поэтому приобретаемые на этих снарядах навыки им крайне необходимы. Естественно, что начинающие не сразу допускаются к таким тренировкам, ибо физические нагрузки в этих случаях достаточно большие и неокрепшему организму они не под силу.

Первогодки занимаются сначала в кружке занимательной космонавтики, где в виде игры им даются первые навыки их будущей профессии, проводятся различного рода соревнования, игры, как, например, космическое лото, которое помогает «малышам» усвоить космические термины и понятия. Затем с 10 лет они уже начинают более серьезное изучение основ авиации и космонавтики, аэродинамики, штурманского дела, азов самолетовождения.

С 14 лет те ребята, которым позволяет здоровье, начинают подготовку по программе юных летчиков. На этом этапе более подробно изучается аэродинамика, авиационная и космическая техника, используются тренажеры современных самолетов. За год этот курс обучения проходят около 300 мальчиков и девочек. Конечно, не все те, кто посещает занятия клуба, обязательно будут летчиками или космонавтами, но многие из них связывают свою дальнейшую судьбу с очень близкими авиации и космонавтике областями науки и техники, становятся специалистами земных авиационных профессий.

Клуб поддерживает тесные связи с космонавтами Звездного городка. Почетным президентом клуба является космонавт Андриян Николаев. Многое из космического оборудования подарено клубу Центром подготовки космонавтов.

Преподавательский состав в клубе — ученые, бывшие летчики-испытатели. В так называемых «космических чтениях», организуемых для ребят, принимают участие ведущие ученые и конструкторы. Они рассказывают ребятам о перспективах развития авиации и космонавтики, знакомят их с наиболее увлекательными проектами.

Московский клуб не единственный в Советском Союзе. Ленинградский — на год старше. За последние годы клубы юных космонавтов созданы также в Оренбурге, Тамбове, Калуге, в Запорожье и Ташкенте. В ряде других крупных городов открываются клубы летчиков. Почему летчиков? Вспомним, все первые космонавты были сначала летчиками — это, во-первых, во-вторых, для того, чтобы создать базу для изучения космонавтики, требуется довольно сложное оборудование, которое пока еще не везде имеется. К тому же ребята убеждены, что нельзя стать космонавтом, не умея пилотировать современные самолеты.

**Владимир РЫЧАЛИН.**
(АПН).

